Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер, выдаецца на беларускай мове.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года | 3 (511) 21 студзеня 2010 года | Кошт **свабодны**





*Фота Ул. Скрабатуна*

## У Беларусі прайшла акцыя па падліку птушак на кармушках

**Акцыя па падліку птушак на кармушках прайшла ў Беларусі 16 і 17 студзеня. Арганізатарам выступіла грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ).**

Як паведаміў БелаПАН спецыяліст па экалагічнай адукацыі АПБ Руслан Шайкін, мэта акцыі — правесці ўлік птушак, якія традыцыйна жывуць каля людзей, і прыцягнуць увагу грамадзян да іх праблем. Усім, хто пажадае, прапаноўвалася падлічыць птушак на кармушках і паведаміць пра іх колькасць, віды і месцы ўліку ў Мядзельскае раённае аддзяленне АПБ, якое выступае каардынатарам акцыі.

Паводле вынікаў акцыі была атрымана карціна прыблізнага размеркавання відаў птушак, якія жывуць побач з людзьмі. У аналагічнай акцыі 2009 года ўзялі ўдзел 282 чалавекі. Часцей за ўсё на кармушкі прылятали вялікія сініцы, дамавыя і палявыя вераб'і. У параўнанні з мінулымі гадамі на кармушкі сталі часцей прылятаць гілі і амялушкі, радзей — звычайныя зелянушкі.

*А. Янушэўская, БелаПАН.*



Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па **хатняму** тэлефону на нумар 166. **Кругласутачна.** Выразна назавіце назоў газеты. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 300 рублёў.

Абвестка тлустым шрыфтом да 5 слоў – 3000 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 400 рублёў.

Між тым, парадак прыёму прыватных абвестак у месцах продажу нашай газеты – нязменны.

# Æóðû íàçâàëà ïåðàìîæöà¢ êîíêóðñó³ ìÿ Âåðàí³ê³ ×àðêàñàâàé

*Прэс-служба ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»*

**Імі сталі Наталка Бабіна, Зміцер Панкавец і Яўген Самсонаў.**

**Наталка Бабіна (Мінск) перамагла з публікацыяй «Спадарыня Лета» («Наша Ніва» ад 16 сакавіка 2009 г.)**

**Змітра Панкаўца (Мінск) адзначылі за артыкул «Ударыўся галавой у бардзюр між райаддзелам міліцыі і КДБ» («Наша Ніва» ад 2 снежня 2009 г.)**

**Яўгену Самсонаву (Глыбокае) аддалі трэцяе месца за публікацыю «Як узрывалі глушылку» (часопіс «Абажур» № 3 (78), 2009 г.)**

Сярод лепшых адзначылі таксама матэрыялы Кастуся Лашкевіча, Сяргея Чыгрына, Наталлі Сеймяновіч, Аляксея Белага, Андрэя Пачобута.

Праўленне БАЖ зацвердзіла вынікі конкурсу і вырашыла, што ўганараванне пераможцаў адбудзецца на бліжэйшым пасяджэнні Рады арганізацыі.

Падвядзенне вынікаў конкурсу адбылося напярэдадні дня нараджэння Веранікі. 12 студзеня журналістцы споўніўся б 51 год.

Конкурс яе памяці ГА «БАЖ» абвясціла 20 кастрычніка мінулага года, на 5-ю гадавіну з дня забойства журналісткі.

Нагадаем, што ў журы конкурсу ўваходзяць знакаміты беларускі паэт, былы старшыня Дзяржтэлерадыё Генадзь Бураўкін, маці Веранікі, былая намесніца галоўнага рэдактара газеты «Голас Радзімы» Дзіяна Чаркасава, старшыня Камісіі па этыцы БАЖ Анатоль Гуляеў, вядомая беларуская журналістка, рэдактарка рэсурсу «Заўтра тваёй краіны» Марына Загорская, а таксама былая выкладчыца Інстытута журналістыкі БДУ і адна з укладальнікаў кнігі найлепшых твораў Веранікі Чаркасавай «Красным по белому» Наталля Кулінка.

Падсумоўваючы вынікі конкурсу, сябры журы канстатавалі, што большасць яго ўдзельнікаў, на жаль, не “дацягнула” да ўзроўню майстэрства Веранікі.

«Сённяшнія журналісцкія матэрыялы, на жаль, не так часта мяне ўзрушаюць, як хацелася б, і не так часта радуюць прафесійна, - абагульніў свае ўражанні старшыня журы Генадзь Бураўкін. - Мне не хапае ў матэрыялах маіх маладых калег аналітыкі, смеласці, перспектыўнага бачання таго, што робіцца ў краіне і ў людскіх душах. А яшчэ - чыста журналісцкага майстэрства.

Усе тыя матэрыялы, што былі пададзены на конкурс імя Чаркасавай, закранаюць важныя праблемы, усе прысвечаны вельмі цікавым, часта с трагічным лёсам, людзям, але вось гэтага яднання роздуму, адчування часу і разумення ўнутранага свету людзей не хапае. Падставы для такіх патрабаванняў дае і жыццё, і творчасць Веранікі Чаркасавай.

Вераніка не проста праводзіла журналісцкія даследаванні часта рызыкоўныя, небяспечныя, - яна іх даводзіла да пэўнай ступені прафесійнай апрацоўкі. Таму так і чыталі яе, і сачылі за яе публікацыямі, што ў яе гэта ядналася чалавечае, прафесійнае, грамадзянскае...

Але ж сярод тых матэрыялаў, якія паступілі на конкурс, былі і цікавыя, якія мы невыпадкова адзначылі. Я маю на ўвазе матэрыялы Наталкі Бабінай, Змітра Панкаўца, Яўгена Самсонава, некаторых іншых журналістаў. Нам здалося, што яны наблізіліся да таго ўзроўню, які сваёй творчасцю прадэманстравала пры жыцці Вераніка.

Хацелася б, каб конкурс гэты жыў. Каб мы не проста час ад часу ўзгадвалі Вераніку, але і адчувалі, што яна побач з намі...»

# Àðõ³á³ñêóïó Ïîëàöêàìó ³ Ãëûáîöêàìó Ôåàäîñ³þ ¢ðó÷àíû þá³ëåéíû ìåäàëü «65 ãàäî¢ âûçâàëåííÿ Ðýñïóáë³ê³ Áåëàðóñü àä íÿìåöêà-ôàøûñöê³õ çàõîïí³êà¢».

**Зміцер Дзежыц**

Узнагарода ўручана кіраўніку Полацкай епархіі Беларускай праваслаўнай царквы ўказам Прэзідэнта «за значны ўнёсак у героіка-патрыятычнае выхаванне грамадзян Рэспублікі Беларусь, увекавечванне памяці загінуўшых, арганізацыю мерапрыемстваў, прысвечаных 65-годдзю вызвалення Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў».

Цырымонія прайшла 14 студзеня на калядным канцэрце ў Палацы культуры ААТ «Полацк-Шкловалакно». Узнагароду Феадосій атрымаў з рук старшыні Полацкага гарвыканкама Уладзіміра Тачыла.

У сваю чаргу архібіскуп Феадосій «за актыўнае супрацоўніцтва з Полацкай епархіяй у справе не толькі грамадскага, але і духоўнага парадку» ўручыў медалі прападобнай Еўфрасінні Полацкай і ганаровыя граматы шэрагу супрацоўнікаў гарадскога аддзела ўнутраных спраў.

Таксама Уладыка Феадосій урачыста перадаў Уладзіміру Тачыла падарунак ад Патрыярха Маскоўскага і *ўсея* Русі Кірыла.

«Патрыярх запомніў, што Уладзімір Сцяпанавіч у свой час займаўся спортам, нават памятае, што ён - майстар спорту, - паведаміў прысутным уладар Феадосій. - Таму падарунак асаблівы - кніга заслужанага майстра спорту па самба Анатоля Хлапецкага «І вечны бой».

## Íàäâîðâå ¢ Ãëûáîêàì www.rp5.ru

| Мясцовы час | чацвер 21.01.10 | | | | пятн.22.01.10 | | | суб. 23.01.10 | | нядз.24.01.10 | | пн 25.01. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | - | - - | - - |
| Тэмпература, °С | -16 | -16 | -13 | -16 | -20 | -20 | -16 | -22 | -18 | -25 | -20 | -25 | -19 |
| Ціск, мм | 762 | 763 | 763 | 764 | 764 | 765 | 765 | 765 | 764 | 763 | 764 | 764 | 765 |
| Вільготнасць, % | 85 | 79 | 72 | 73 | 89 | 72 | 70 | 72 | 75 | 90 | 70 | - | - |
| Вецер м/сек | В 4 | В 4 | В 3 | В 3 | С-В 2 | В 2 | В 2 | С-В 2 | С-В 2 | С 3 | С-В 2 | С 3 | С-В 2 |

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Ó Çþç³ áóäçå ñâàÿ ðýç³äýíöûÿ

**Кастусь Александровіч**

**У шэрагу рэгіёнаў краіны і Віцебшчыны сёлетняй зімой прайшлі спецыяльныя масавыя мерапрыемствы на сядзібах мясцовых Дзедаў Марозаў.**

Аднак найбольшы размах і вядомасць такія прадстаўленні мелі ўсё ж у Пастаўскім раёне, дзе у перыяд святаў у рэзідэнцыі Зюзі Паазерскага, адкрытай у пяты раз, пабывала толькі іншагародніх турыстаў больш трох тысяч чалавек. Чарговаму поспеху раскручанага праекта сёлета садзейнічала сапраўднае навагодняе надворе ў казачным зімовым лесе і тое, што яго ўмела развіваюць на нацыянальнай глебе. Шматлікіх гасцей чакалі новыя прыгоды на міфалагічнай сцежцы з некалькімі брамамі і масткамі, дзе дрэнных людзей нават мог “забраць” з сабой Хапун на падыходзе да Каляднай паляны. Акрамя добра арганізаваных прадстаўленняў гасцей чакалі розныя конкурсы, сувеніры, памятныя пачастункі, ад чаго ніхто з дарослых і дзяцей тут не сумаваў. Паколькі гэты праект развіваецца, як трэба, кіраўніцтва раёна вырашыла ўзняць яго на новую вышыню. Пастаўскаму прыватнаму цэнтру турысцкіх паслуг будзе выдзелены зямельны ўчастак, на якім паўстане шыкоўная круглагадзічная рэзідэнцыя Зюзі, а таксама сучасная інфаструктура, каб тут было не горш, як на вядомай сядзібе ў Белавежскай пушчы.

Äîêøûöê³ ðà¸í

# Íîâû çàâîä ó ãëûá³íöû

**Станіслаў Раманчук**

**Адышоўшы ў гісторыю 2009 год прынёс у Докшыцкім раёне найбольш прыемных змен жыхарам гарадскога пасёлка Бягомль. Яго пасля праведзенага першага этапа работ па добраўпарадкаванню стала проста не пазнаць.**

Яшчэ больш важна, што тут у глыбінцы ў перыяд даволі сур’ёзнага крызісу паўстала новая вытворчасць. Перад навагоднімі святамі адкрыўся новы вытворчы корпус завода “Віцязь” і пачалі выпускаць неабходныя камплектуючыя для вядучага нацыянальнага прадпрыемства “Магілёўліфтмаш”, прадукцыя якога карыстаецца попытам і ў Еўропе. Спачатку на новым заводзе ў Бягомлі атрымалі працу 58 чалавек, у асноўным моладзь. З выхадам гэтага прадпрыемства на поўную магутнасць да канца зімы новых рабочых месцаў будзе роўна сто. Са знамянальнай падзеяй жыхароў гарпасёлка спецыяльна прыехаў асабіста павіншаваць кіраўнік Віцебскай вобласці Аляксандр Косінец. Дарэчы, па ягонай ініцыятыве сёлета ў Прыдзвінні прадоўжыцца актыўная праца па абнаўленню шэрагу іншых прыгранічных населеных пунтаў вобласці. Не спыніцца праца і ў самім Бягомлі, дзе паўстане хутка пасля рэканструкцыі аўтастанцыя і будзе развівацца прыдарожны сервіс.

Ì¸ðñê³ ðà¸í

# Çíî¢ áàáàõíóëà íå íà æàðò

**Стала ўжо дрэннай завядзёнкай апошнім часам, што ў розных кутках краіны ў халады павялічваюцца пажары і нават узрываюцца кацельні і бытавыя катлы грамадзян. Гэту сумную статыстыку днямі папоўніў Мёрскі раён, дзе ў кацельні СВК “Мікалаёва” выбухнуў адзін з ацяпляльных катлоў**

**Чэслаў Якубовіч**

Узрыў быў такой сілы, што выбуховай хваляй 56-гадовага качагара выкінула праз акно на вуліцу. З траўмамі і апёкамі твару яго даставілі на лячэнне ў гарбальніцу суседняга Наваполацка. Моцны выбух прывёў і да істотных матэрыяльных страт. У выніку здарэння былі разбураны дзве сцяны будынка, у якой месціліся адразу дзве кацельні і абвалілася значная частка жалезабетоннага даху памяшкання. Без ацяплення ў халоднае надвор’е засталіся кантора гаспадаркі, мясцовы сельсавет, сельскі клуб і сталовая школы. На шчасце, не пацярпела суседняя кацельня, якая абагравала мясцовую базавую школу з дзіцячым садам. Ей прыйдзецца цяпер працаваць з павышанай нагрузкай пасля аператыўнага падключэння дадатковых аб’ектаў, застаўшыхся без цяпла. Па папярэдніх ацэнках спецыялістаў, прычынай выбуху стала грубае парушэнне правілаў эксплуатацыі цеплаcетак і недастатковая колькасць вады ў катле.

## Äçåíü çà äí¸ì

**Не стаў наступўшы 2010 год, як чакалася, Годам роднай мовы ў Беларусі. У навагоднім звароце кіраўніка краіны гэты год быў аб'яўлены Годам якасці. Сёлета ў 1-м квартале беларусы будуць плаціць за газ на 11 % болей, чым летась. Эксперты прагназуюць, што і сёлета крызіс у нас будзе развівацца, а год стане складаней 2009-га, калі было зарэгістравана рэкорднае падзенне айчыннага экспарту, а вялізныя складскія запасы ( больш 6 трлн. рублёў) так і не ўдалося разгрузіць.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

***Аўстрыя.*** На пасяджэнні пастаяннага камітэта АБСЕ ў Вене гэта ўплывовая міжнародная арганізацыя прадоўжыла мандат свайго Офіса ў Мінску на 1 год да 31 снежня 2010 года.

***Кітай.*** Краіна выйшла на першае месца ў свеце па аб'ёмах экспарту, абагнала Германію, за мінулы год прадала сваіх тавараў на суму 1,2 трлн. USD, па ВУП стала 3-й у свеце.

***ЗША.*** Міністэрства аховы здароўя ўслед за Канадай адклікала каля 800 тысяч доз вакцыны супраць грыпу для малых дзяцей, бо яна не мае моцы, каб абараніць іх ад віруса.

***Харватыя.*** Новым, трэцім па ліку прэзідэнтам краіны пасля другога тура выбараў стаў 52-гадовы юрыст і музыкант Іво Йосіпавіч, кандыдат ад Сацыял-дэмакратычнай партыі.

***Літва.*** Еўрасаюз выдзеліў краіне на год 1,7 млрд. EUR дапамогі з розных сваіх фондаў, што на 10 % болей, чым у 2009 годзе, аднак яе энергасістэма не далучана да еўрапейскай.

***Польшча.*** Праз два гады ў горадзе Лемборк будзе гатова новая ваенная база, самая сучасная ў Еўропе, для супрацьракетнай абароны марскога ўзбярэжжа краіны.

***Японія.*** Краіна разам з Тайландам стала сусветным лідэрам і па колькасці выхадных дзён, бо ў 2010 годзе мае 119 нерабочых дзён, а Беларусь толькі 108, калі Кітай 118 дзён.

***Карэя.*** Пад сталіцай напоўгалоднай КНДР, як заявіў па радыё адзін з перабежчыкаў, пракладзена сетка тунэляў на глыбіні 300 м даўжынёй больш 40 км для правячай эліты.

***Германія.*** За мінулы год, нягледзячы на крызіс, немцы купілі больш 3,8 млн. новых аўтамабіляў, лепшы вынік за 10 гадоў з дапамогай урада ў памеры 2,5 тыс. EUR на аўто.

***Марока.*** Вучоны батанік з Галандыі правёў паспяховыя выпрабаванні спецпаддонаў-кандэнсатараў вады, якія дазваляюць вырошчваць у пустыні дрэвы эўкаліптаў і акацый.

***ААЭ.*** У эміраце Дубай адкрылі самы высокі ў свеце хмарачос-башню вышынёй рэкордных 818 метраў у будынку з элітнымі кватэрамі, офісам і гатэлем са 162 паверхамі.

***ЗША.*** Генеральная Асамблея ААН аб'явіла ў Нью-Ёрку 2010 год Міжнародным годам біяразнастайнасці, бо змена клімату і стан экасістэм сур'ёзна падрывае жыццё на Зямлі.

***Швейцарыя.*** Федэрацыя хакея паабяцала перадаць у Беларусь копію Кубка Шпенглера, які ўпершыню заваявалі і на радасцях адразу разбілі ігракі каманды "Дынама" (Мінск).

***Расія.*** Група авіяспецыялістаў устанавіла, што прычынай гібелі першага касманаўта Ю. Гагарына стала паніка, калі пілоты заўважылі разгерметызацыю кабіны іх самалёта.

***Нарвегія.*** Да 39 скарацілася колькасць краін-удзельнікаў чарговага 55-га конкурса песні Еўрабачання, адмовіліся ад удзелу ў ім Чэхія, Венгрыя, Аўстрыя, Андора, Чарнагорыя.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

***Мінск.*** У выпадку захавання расійскіх пошлін на стратэгічную сыравіну, як заявіў прадстаўнік урада РБ, для Беларусі стане бессэнсоўным удзел у Мытным саюзе 3-х краін.

***Баранавічы.*** Услед за Лядовым палацам у горадзе вырашылі ўзвесці Палац водных відаў спорту, хоць 100 км вуліц без асфальту, капітальнага рамонту чакаюць 368 жылых дамоў.

***Мінск.*** Павышэння сёлета пенсійнага ўзросту, як заявіла намеснік міністра працы і сацабароны Беларусі В. Каралёва, не будзе, пенсіі за гэты год узрастуць яшчэ на 18-20 %.

***Ліда.*** У другой дэкадзе верасня па распараджэнню кіраўніка краіны ў горадзе пройдзе чарговы рэспубліканскі фестываль-ярмарка працаўнікоў вёскі "Дажынкі-2010".

***Мінск.*** З новага года з 60 да 180 EUR узрос кошт уязных віз у Нацаэрапорце "Мінск" для замежных грамадзян, што негатыўна адаб'ецца па прыцягненню турыстаў з краін свету.

***Гомель.*** Абласны суд асудзіў на 6 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці за перавышэнне ўлады былога 1-га намесніка старшыні райвыканкама Мазыра.

***Мінск.*** Аўтасалоны сталіцы і буйнейшыя аўтамабільныя дылеры з новага года спынілі продаж у Беларусі новых легкавых аўтамабіляў з-за іх адсутнасці і спынення ўвозу ў РБ.

***Магілёў.*** Вобласць стала летась лідэрам у Беларусі ў працэсах інфарматызацыі, за мінулы год тут стварылі яшчэ 26 новых сучасных дзяржаўных інтэрнет-рэсурсаў.

***Мінск.*** Студэнты Белдзяржуніверсітэта сталі першымі жыхарамі першага інтэрната новай Студэнцкай вёскі ў блоках на два пакоі з выхадам у сетку Інтэрнет у кожным з іх.

***Рагачоў.*** Многіх жыхароў раёна шакіраваў факт наўмыснага падпалу напярэдадні свята Каляд царквы 19 стагоддзя на могілках вёскі Стары Крыўск, якую знішчыў агонь.

***Мінск.*** Прыезд Папы Рымскага ў Беларусь залежыць, як паведаміў прэс-сакратар БРКЦ А. Амяльчэня, ад кіраўніцтва Беларускай царквы, да якой належыць большасць веруючых.

***Гомель.*** Пасля акцыяніравання з прыцягненнем замежнага інвестара на продаж выстаўляць буйны вагонарамонтны завод і прадпрыемства "Гомельтранснафта "Дружба".

***Мінск.*** Былы гендырэктар МТЗ, 56-гадовы Міхаіл Лявонаў вярнуўся дамоў з турмы, дзе правёў за кратамі 8 гадоў, але не прызнаў сябе ні ў чым вінаватым і не прасіў памілавання.

***Барысаў.*** Галоўны трэнер чэмпіёна Беларусі па футболе ФК "БАТЭ" Віктар Ганчарэнка адправіўся на стажыроўку ў вядомых клубах "Бары" (Італія) і "Вільяррэал" (Іспанія).

***Брэст.*** З-за моцных снегападаў і марозу больш ста населеных пунктаў вобласці засталіся без святла, вышыня снежнага покрыва перавысіла 30 см, як у суседняй Польшчы.

***Мінск.*** У Чырвоным касцёле сталіцы прайшла прэзентацыя новага цікавага літаратурна-мастацкага часопіса "Верасень", заснаванага Таварыствам беларускай мовы.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

***Віцебск.*** Нават у абласным цэнтры, як адзначалася на сесіі гарсавета, работнікі 34-х арганізацый атрымоўваюць зарплату меней 200 USD, часцей праз наступны месяц і болей.

***Наваполацк.*** Шэраг аб'ектаў былога ваеннага гарадка Баравуха-3 былі прададзены на аўкцыёне за 48,5 млн. рублёў, па цане ў 300 разоў вышэй стартавага кошту будынкаў.

***Віцебск.*** Прыборабудаўнічы завод атрымаў важкі дзяржзаказ на выраб 85 тысяч памятных медалёў з якаснай латуні да 65-годдзя Перамогі над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне.

***Талачын.*** На мясцовым вінзаводзе пачалі выраб высакаякасных натуральных він з парэчак і агрэсту без дабаўлення спірту з тэрмінам іх выспявання да года і больш, як вінаградных.

***Полацк.*** У горадзе найгоршая на Віцебшчыне сітуацыя з узвядзеннем жылля, пры заданні на год 45 тысяч яго здалі летась 31 тыс. кв. метраў, ПМК-59 увогуле стала стратнай.

***Лепель.*** Кіраўніцтва мясцовага аддзела Дэпартамента аховы заахвоціла супрацоўніка, прапаршчыка Ігара Васільева за выратаванне ноччу двух чалавек з палаючага дома.

***Бешанковічы.*** На 2 гады і 1 месяц пазбавіў волі суд 21-гадовага жыхара раёна за распаўсюджванне парнаграфічных фільмаў у перыяд адтэрміноўкі ранейшага прыгавора.

***Навалукомль.*** У самым вялікім у горадзе ўніверсаме № 7 адкрыўся першы кафетэрый на 30 пасадачных месц, дзе паказваюць для наведвальнікаў і папулярных мультфільмы.

***Віцебск.*** У Палацы спорту прайшоў з аншлагам пяты па ліку касцінг VII Нацыянальнага конкурса прыгажосці "Міс Беларусь-2010", яго фінал тэлеканал АНТ правядзе вясной.

***Верхнядзвінск.*** Да свята Богаяўлення (Вадохрышча) народны клуб "Белыя вароны" у вёсцы Кахановічы правёў традыцыйнае масавае купанне ў мясцовай сажалцы.

***Віцебск.*** На сцэне драмтэатра імя Я. Коласа ў 15-ты раз прайшло Свята духоўнай музыкі з удзелам дарослых і дзіцячых хрысціянскіх і свецкіх калектываў і ансамбляў.

***Орша.*** З удзелам дачкі легендарнага партызанскага камбрыга К. Заслонава ў горадзе прайшлі шэраг розных мерапрыемстваў з нагоды 100-годдзя з дня ягонага нараджэння.

***Віцебск.*** Супраць жыхара горада распачалі крымінальную справу за хуліганства, ён залез днём на 35-метровую ёлку на плошчы Перамогі і замацаваў на ёй бел-чырвона-белы сцяг.

***Полацк.*** Калектыў цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы атрымаў спецыяльную прэзідэнцкую прэмію за ўкараненне новых інфармацыйных сістэм абслугоўвання рэгіёна.

***Віцебск.*** Яшчэ 20 невядомых астэроідаў адкрыў упершыню мясцовы астраном-аматар Віталь Неўскі, адзін з якіх , другі па ліку будзе зарэгістраваны на міжнародным узроўні.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**19,5** **млрд. рублёў** такі, па дадзеных Цэнтральнай выбарчай камісіі, будзе бюджэт на правядзенне прадстаячых мясцовых выбараў у Беларусі вясной 2010 года. Ніхто і не разлічвае, што яны выклікаюць вялікі ажыятаж і актыўнасць патэнцыйных кандыдатаў у дэпутаты, працуючых на грамадскіх пачатках. Толькі статус народнага абранніка абласнога ўзроўню альбо буйнога горада мае цяпер вагу, мясцовымі рэгіянальнымі праблемамі і іх вырашэннем можна паспяхова займацца, маючы нейкую ўладу.

Як вядома, мясцовыя выбары пройдуць, як ужо вырашана, датэрмінова, у красавіку бягучага года. Іх развялі ў часе з асноўнай выбарчай кампаніяй кіраўніка дзяржавы на новы тэрмін, якая па закону павінна прайсці да 7 лютага 2011 года. Аднак сёлета ў чацвёртым квартале года на прэзідэнцкія выбары выдаткавана грошай болей у 2 разы каля 37 млрд. рублёў. Старт аб пачатку мясцовых выбараў будзе дадзены ў студзені, за 3 месяцы да дня галасавання, а папярэдняе такое галасаванне праходзіла 3 гады назад, у нядзелю 14 студзеня 2007 года. Не так і шмат часу давялося папрацаваць мясцовым дэпутатам у сваіх акругах, па шчырасці далёка не кожны з нас нават памятае іх прозвішчы.

На мясцовыя выбары сродкі выдзелены зыходзячы з таго, што ў Мінску на адно месца будзе прэтэндаваць да 5 чалавек, а ў глыбінцы добра калі па паўтары прэтэндэнты. Як за савецкім часам звычайна на мандат цяпер прэтэндуе па аднаму кандыдату з шэрагу кіруючых работнікаў рознага ўзроўню. Іншая справа чарговыя выбары лідэра беларускай дзяржавы, які на сваёй пасадзе знаходзіцца, хутка ўжо будзе 16 гадоў. Кіраўніцтва Беларусі запэўнівае ўсіх, што ў краіне пройдуць сумленныя і прыстойныя выбары і з некаторай лібералізацыяй выбарчага заканадаўства.

Нягледзячы на гэта, можна зразумець адсутнасць хвалявання і поўны спакой дзеючага кіраўніка краіны ў сувязі з выбарамі, паколькі за яго яшчэ мінулай восенню гатовы былі аддаць свае галасы каля 38 % рэспандэнтаў. Паводле ягоных слоў, надышоў той час, калі ніякай барацьбы з боку Прэзідэнта не павінна быць ні за гэту пасаду, ні за тое, каб адміністрацыйна ўплываць на гэты працэс. Сцэнарый выбараў па ўсёй бачнасці праглядваецца відавочны не больш 4 асноўных кандыдатаў, адзін з якіх А. Лукашэнка.

Толькі ў далёкім 1994 годзе было 6 зарэгістраваных кандыдатаў і барацьба ў 2 туры. У двух наступных выбарах 2001 і 2006 гадоў было зарэгістравана па 4 кандыдаты, праўда, ў пачатку стагоддзя С. Домаш зняў сваю кандыдатуру на карысць У. Ганчарыка. На выбарах 2006 года колькасць прэтэндэнтаў з папярэдніх 26 скарацілася да 9, але ЦВК зарэгістраваў чатырох: А. Лукашэнку (у яго падтрымку сабралі 1,9 млн. подпісаў), А. Мілінкевіча (183,2 тыс.), С. Гайдукевіча (144,6) і А. Казуліна (143,4 тыс. подпісаў грамадзян РБ).

Не так і проста сабраць за вылучэнне свайго прадстаўніка кандыдатам у прэзідэнты неабходных 100 тысяч подпісаў, аднак каля 10 ініцыятыўных груп, верагодней ўсяго, будзе створана. Але да гэтага моманту яшчэ будзе багата часу і нават пэўны перапынак пасля правядзення мясцовых выбараў. Як нам абяцаюць, ні на гэтых прадстаячых выбарах, ні на іншых ніякага націску на выбаршчыкаў не будзе. Аднак народ заканапаслухмяны і тым больш, як сцвярджаюць, да рэформаў не гатовы. Таму асаблівай інтрыгі на мясцовым галасаванні не прадбачыцца і добра будзе, калі ў мясцовыя саветы прыйдуць людзі нераўнадушныя, якія ведаюць вузкія месцы сваіх рэгіёнаў і могуць заняцца вырашэннем сваіх мясцовых праблем.

Пакуль жа зусім хутка стартуе мясцовая выбарчая кампанія з пэўнымі зменамі ў заканадаўстве. Нават выбарчыя камісіі цяпер павінны на трэць складацца з прадстаўнікоў партый і грамадскіх аб'яднанняў, для якіх аблегчыўся працэс вылучэння кандыдатаў і механізм збору подпісаў. Больш жорстка зараз рэгламентаваны працэс датэрміновага галасавання, кожны дзень на выбарчых участках павінны змяшчацца пратаколы аб колькасці такіх актыўных выбаршчыкаў. Цяпер адменены і парог яўкі на мясцовыя выбары. Спрактыкаваныя беларусы ведаюць, які будзе вынік і як працуюць гэтыя Саветы.

# Неверагодная гісторыя ўцёкаў глыбоцкага ссыльнага


Вітольд Глінскі

**87-гадовы Вітольд Глінскі, ветэран Польскіх Узброеных Сіл на Захадзе (PSZ) першы раз у жыцці распавёў брытанскаму журналісту гісторыю сваіх незвычайных уцёкаў з сібірскага лагеру праз пустэльню Гобі, Тыбет і Гімалаі ў Індыю.**

Журналіст Джон Дайсан (John Dyson) пачуў выпадкова аб ваенных лёсах Глінскага і намовіў яго да ўспамінаў. Справаздачу з размовы ён змясціў у найноўшым, травеньскім выданні месячніка "Reader`s Digest".

Вітольд Глінскі перад вайной жыў у горадзе Глыбокае, што на Віленшчыне. Пасля выбуху Другой сусветнай вайны быў вывезены разам з роднымі ў глыб Расіі і разлучаны з імі. Быў вязнем маскоўскай Лубянкі і ў няпоўных 17 гадоў асуджаны на 25 гадоў цяжкай прымусовай працы. Працаваў дравасекам. Толькі сабе вядомым кодам адзначаў на дрэвах кірунак на поўдзень. Лагер, у якім знаходзіўся Вітольд Глінскі быў на адлегласці каля 2,5 тысячы кіламетраў ад мяжы СССР і Кітая. У лютым 1941 года, дзякуючы дапамозе жонкі каменданта лагера, якая ўзамен за тое, што Глінскі направіў ёй радыё, дала яму боты і цёплае адзенне, рушыў у пешае падарожжа праз Сібір, Манголію, Кітай і Тыбет у Індыю. Уцёк, падкапаўшыся пад лагернай агароджай у часе снежнай завеі. Разам з ім, карыстаючыся падкопам, збегла і 6 сяброў па зняволенню: таямнічы амерыканец, які ў часе арышту працаваў у Маскве інжынерам, украінец Батко, які быў асуджаны на радзіме за забойства, Заро – уладальнік кавярні ў Югаславіі і трое былых польскіх жаўнераў.

Дарогу, даўжынёй ў 6,5 тысяч кіламетраў, адолелі толькі чатыры з іх, дасягнуўшы мэты ў студзені 1942 года. У хвіліну, калі ледзьве жывых уцекачоў знайшоў патруль гуркхаў, Глінскі быў крайне вычарпаны, блізкі да смерці. Ніводзін з трох былых польскіх жаўнераў, яго спадарожнікаў, не перажыў гэтую доўгую дарогу. Ішлі да 20 гадзін штодня – у сцюжу, снежную завею, у разрэджаным высакагорным паветры, і ў спёку. Праз лясы, палі, пустэльні і скалы… Жывіліся карэннямі, грыбамі, змеямі… У пустэльні Гобі, дзе прысутнічае значны кантраст тэмператураў паміж днём і ноччу, смагу гасілі дзякуючы вільготным каменням. Напатканым у дарозе людзям ахвяравалі дапамогу ў працы па гаспадарцы ўзамен за ежу. З Індыі Глінскі патрапіў у Англію, дзе ўступіў у 1-шы Корпус, браў удзел у высадцы саюзнікаў у Нармандыі, быў паранены асколкам. У 1950 годзе ажаніўся на англічанцы і працаваў на будоўлі аўтастрадаў. Цяпер жыве ў Карнваліі.




Гісторыю ўцёкаў Глінскага прысвоіў сабе былы афіцэр PSZ Славамір Равіч (1915-2004), які апублікаваў у 1955 годзе на гэтую тэму гучную кніжку "The Long Walk" ("Даўгі Марш"), якая чыталася на адным дыханні. Кніжка гэтая выйшла паўмільённым накладам і была перакладзеная на 25 моваў свету. Аднак, дзякуючы архіўным даследаванням у Інстытуце генерала Сікорскага ў Лондане, яна была дэмаскіраваная пасля смерці Равіча як плагіят. У той час выйшла на яву, што Равіч не мог быць удзельнікам "Даўгога Маршу", таму што ў тым часе служыў у Персіі. Глінскі здаўна ведаў, што Равіч прысвоіў сабе гісторыю яго ўцёкаў. Меркавана, што Равіч іх мог перачытаць у амбасадзе Польшчы ў Лондане. Глінскі ніколі не дэмаскіраваў плагіяту, таму што меў новае жыццё і аб вайне хацеў забыцца. Гэтым разам, аднак, хоча, каб праўда выйшла на яву.

*Пераклад з польскай мовы Ул. Скрабатуна.*

# Зыгмунт Рудаміна

**Рудаміны – старадаўні шляхецкі род у Вялікім княстве Літоўскім. Варта нагадаць, што уладальнікамі маёнтка Сарокі, які недалёка ад Глыбокага, таксама былі Рудаміны. Жылі Рудаміны і ў Глыбокім. Сярод вучняў Глыбоцкай школы паўшэхнай быў і Зыгмунт Рудаміна, будучы контрадмірал.**



Зыгмунт Рудаміна нарадзіўся 1 ліпеня 1923 года ў Глыбокім на Віленшчыне. У 1930-1936 гадах наведваў школу паўшэхную[1], а далей, да 1939 года навучаўся ў гімназіі[2].

У 1940 годзе быў дэпартаваны ў Сібір. У 1944 годзе яго ўключылі ў 3-ю Пяхотную дывізію імя генерала Рамуальда Траўгута (паслядоўна: 1-шы Корпус Польскіх узброеных Сіл у СССР, Польская Армія ў СССР і 1-ая Армія Войска Польскага). У першай фазе вайсковых дзеянняў удзельнічаў у фарсіраванні Буга і Віслы, а ў 1945 годзе браў удзел у бітвах за Варшавай, праз Паморскі Вал, да Берліна. Пасля заканчэння вайны прыбыў на Памор'е.

У 1946 годзе прыняты ў Марскі Факультэт Ваеннамарской афіцэрскай школы ў Гдыні, які скончыў у 1949 годзе, атрымаўшы афіцэрскую пасаду і званне марскога падпаручыка.

Быў выпускніком Вышэйшых Акадэмічных Аператыўных Курсаў Ваенна Марской Акадэміі СССР у Ленінградзе (у 1955-1957 гг).

На першую службовую пасаду ў Ваеннамарскім Флоце быў накіраваны ў дывізіён падводных караблёў у Гдыні, дзе стаў вахтавым афіцэрам ORP "Zbik". У 1951 годзе заступіў на пасаду памочніка камандзіра дс. падводных караблёў у адным з аддзелаў Галоўнага Штабу Ваенна Марскога Флоту ў Гдыні. Ад 1957 да 1962 года камандаваў Брыгадай Абароны Воднага Раёну Галоўнай Базы Ваеннамарскога Флоту ў Гелю, а потым быў намеснікам начальніка Галоўнага Штаба дс. аперацыйных у Камандаванні Ваеннамарскіх сіл. 9 кастрычніка 1963 года атрымаў павышэнне па службе на званне вайсковага контрадмірала. У 1966 годзе прызначаны першым камандуючым 8-ай флатыліі Абароны Узбярэжжа ў Свінавусці. У 1968-1983 гадах займаў становішча начальніка Тэхнічных Служб і Забеспячэння – намеснік камандуючага Ваеннамарскім Флотам дс. тэхнікі і забеспячэння, пасля чаго ў 1984 годзе пайшоў на адпачынак. Адыходзячага ў стан адпачынку контрадмірала праводзіў у студзені 1984 года міністр нацыянальнай абароны генерал броні Фларыян Сівіцкі, а таксама віцэміністр нацыянальнай абароны генерал броні др. Юзаф Барыла. На пенсіі дзейнічаў як кіраўнік Марской Камісіі Лігі Абароны Краю. Памёр 26 кастрычніка 1993 года ў Гдыні і быў пахаваны на Вітамінскім Цвінтары.

**Заўвагі:**

1. Так званая чырвоная школа.
2. Стары будынак СШ №1, які ўжо знесены.

## У Мінскай вобласці спынена дзейнасць злачыннай групы, якая займалася вывазам жанчын для сексуальнай эксплуатацыі ў Расію

На тэрыторыі Мінскай вобласці спынена дзейнасць арганізаванай злачыннай групы, якая ў 1997—2007 гадах займалася падборам, вярбоўкай, перавозкай і сексуальнай эксплуатацыяй жыхарак рэгіёну ў Расію. Пра гэта БелаПАН паведамілі ў аддзяленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Мінаблвыканкама.

У складзе групы былі беларускія і расійскія грамадзяне. На гэты час устаноўлена восем пацярпелых, праводзяцца далейшыя следчыя дзеянні і аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы.

У 2009 годзе супрацоўнікамі абласной міліцыі было перакрыта 10 каналаў вывазу пацярпелых за мяжу (Расія, Турцыя, Германія і Польшча), устаноўлена 35 ахвяр гандлю людзьмі.

Супрацоўнікамі органаў унутраных спраў вобласці складзена больш за 90 адміністрацыйных пратаколаў у дачыненні да асоб, якія займаюцца прастытуцыяй, пры гэтым да адказнасці прыцягваліся асобы як жаночага, так і мужчынскага полу.

У сферы супрацьдзеяння гандлю людзьмі выяўлена 67 злачынстваў, што на 55% больш, чым у 2008 годзе. З іх 18 адносяцца да катэгорыі цяжкіх і асабліва цяжкіх.

У жніўні 2009 года выяўлена і спынена злачынная дзейнасць жыхароў Мінска і Маладзечна, якія займаліся распаўсюджваннем праз інтэрнет парнаграфічных матэрыялаў з выкарыстаннем фотаздымкаў юных непаўналетніх. Спынена дзейнасць пяці парнасайтаў, канфіскавана больш як 500 адзінак парнаграфічнай прадукцыі.

*В. Будкевіч, БелаПАН*

**Віталь Воранаў:**

# Споведзь ксяндза Булькі

## Прыватны ўспамін з нагоды смерці святара

Калі я першы раз пабачыў ксяндза Бульку, мне было шэсць гадоў. Яму было шэсцьдзясят чатыры, але ў той час мне здавалася, што яму прынамсі дзевяноста. Адразу, дзякуючы бабуліным захадам, якая была прызнанай у каталіцкай грамадзе хадайніцай па аднаўленні удзельскага касцёла, я атрымаў ганаровую пасаду міністранта. У той час усіх хлапчукоў, як і мужчын у комжах, якія прыслужвалі падчас святой імшы, мясцовыя аднольками называлі закрыстыянамі. Мае абавязкі ў гэтай функцыі няспынна раслі з кожным днём. Спярша я атрымаў доступ да званочкаў, пасля да гарлачыкаў для палівання вады ў абрадзе ўмывання рук, яшчэ пазней да патэны для падстаўляння пад падбароддзе ў часе камуніі, якую мы проста называлі тацай, і ўрэшце ці не да самага файнага і ў чымсьці вельмі паганскага літургічнага прычындалу – кадзідла. З усіх закрыстыянаў у часе службы я адрозніваўся бездакорнымі паводзінамі, якія найперш заключаліся ў поўным маўчанні і дарослай павазе, што ксёндз Булька, даволі часта адзначаў механічным пагладжваннем па галаве. Я заўсёды ставіўся да яго з пэўнай насцярогай, хутчэй за ўсё з-за слабага разумення ягоных словаў. Толькі прыехаўшы ў Беларусь, ксёндз гаварыў на рускапольскай мяшанцы з моцным літоўскім акцэнтам, які істотна перашкаджаў мне разумець ягоныя кароткія заўвагі і пытанні. У той час служба ў касцёле праходзіла яшчэ выключна па-польску. Я польскай мовы, апроч завучаных словаў розных малітваў, не ведаў. Таму фраза “Bogu składamy dzięki”, перакладзеная мною як “Богу складаем дзеньгі”, перш за ўсё асацыявалася з чыннасцю збірання грошай у скарбонку, рабіла на мяне вялікае ўражанне.

Вобраз ксяндза Булькі для мяне ўсё ж больш звязаны з прыкасцёльнай тэрыторыяй, чым з самім касцёлам. Ягоныя рукі часта былі запэцканыя ў зямлі, зліваліся з колерам сутаны і ўлюбёнай ім бірэты – чорнай, чатырохвугольнай шапкі з дзіўным пампонам на версе. На сённяшні розум я б падумаў, што ён хутчэй пратэстант, які большасць дня праводзіць на працы ў садзе, ці можа нават пурытанін, які, пакінуўшы дом, едзе абжываць новую зямлю, па якой калі нават хтосьці і хадзіў перад гэтым, то было гэта вельмі даўно. У сваёй нянавісці да алкаголю – я добра памятаю ягоныя палымяныя супрацьалкагольныя казані – ён і праўда ў нечым больш нагадваў пурытаніна з каланіяльнага перыяду. Магчыма, таму Бульку так моцна любілі і ўсяляк падтрымлівалі вясковыя жанчыны, а мужчыны пераважна асцерагаліся.

Калі мне споўнілася восем, бабуля пастанавіла падрыхтаваць мяне ды выправіць да першай камуніі. Прайшоўшы этап тэарэтычнай падрыхтоўкі ў законных сясцёр, я актыўна рыхтаваўся да першай у жыцці споведзі. Чым бліжэй быў час споведзі, тым больш я губляўся ў “нарыхтоўцы” сваіх грахоў. Як заўжды, у такіх выпадках на дапамогу прыходзіла бабуля. Яна спярша прайшлася са мною па ўсіх смяротных грахах, за якія можна трапіць у пекла, якія папаўняюцца пры поўнай свядомасці і свабодзе выбару. З дзесяці прыказанняў бабуля пазначыла мне пункты тры і чатыры, а пасля мы перайшлі да грахоў з ліку лёгкіх – тых, з якімі можна было разлічваць на Чысцец. Каб занадта не перахваляваць мяне вывучэннем правінаў на памяць, бабуля дапамагла запісаць іх на адмысловую паперку. Калі прыйшоў урачысты момант, ксёндз Булька спярша ўважна выслухаў завучаную мною формулу споведзі, а пасля зачытаныя з дапамогай шпаргалкі грахі. Адмовіўшы сваю частку малітвы, ён загадаў больш не грашыць, задаў у якасці пакуты адмовіць пэўныя малітвы і ўжо ў самым канцы, выхіліўшыся з-за кратаў канфесіяналу бліжэй да мяне, на сваёй дзівоснай мове прашаптаў:

– Паперку пасля споведзі спаліць.

Скінуўшы з плячэй вялізарны груз, быццам паветраны балонік я вяртаўся з не менш за мяне задаволенай бабуляй дахаты.

– А каму спавядаецца ксёндз Булька? – мучыў я бабулю сваімі складанымі пытаннямі.

– Біскупу, – спакойна, як заўжды, адказвала яна.

– А біскуп? – працягваў я.

– А біскуп Папу Рымскаму – казала бабуля, мусіць, не хочучы ўводзіць мяне ў складаныя падрабязнасці.

– А Папа Рымскі? – не спыняўся я.

– А Папа Рымскі... Богу – сказала бабуля, паставіўшы кропку ў нашым дыялогу.

“Дык вось, значыць, якім складаным шляхам мае грахі трапляюць да Бога” – думаў я і крочыў дадому.

*15 студзеня 2010 г.*



Аўтар – першы справа ў першым шэрагу.

**Віталь Воранаў** (нар. 1983 у Мінску) — літаратар, перакладчык, выдавец. Сузаснавальнік і старшыня Беларускага культурна-асветніцкага цэнтру ў Познані і выдавецтва «Белы Крумкач». Студэнт універсітэту імя Адама Міцкевіча ў Познані і Заходнечэскага ўніверсітэту ў Пльзені.

■ **Марыя Баравік,**
*г.п. Падсвілле.*

# Цікава

У першай палове 2009-га года, людзям-прыродалюбам, было незразумела, чаму так абыякава, безгустоўна, ды і увогуле, чаму зразаюць у большасці прыгожыя дрэвы — пакідаюць высокія пні. Пры тым гэтыя дрэвы ўжо няшчадна абразалі кожнай вясной, і пасля апошняга зрэзу многія набылі вобразны выгляд. Ідзеш пры слабым святле ліхтароў-мігалак і баішся пня. Ён, нібы п'яны лесвічны сусед, наступае на цябе. Адно не мацюкаецца.

Цікавы пень-ясень на калене вуліц Савецкая-Будаўнікоў. Ён па духу, нібы птушка - хоча ўзляцець, але пуза не пускае. Гэткае ўражанне з боку тратуара.

З другога ракурса – як бы начальнік, які прыглядваецца... З трэцяга – нехта голы, нямоглы, скалечаны. Балючы вобраз. Я назірала. Толькі ў канцы лета на целе ягоным не з таго месца вытыркнуліся вусы. Можа калі гаротнік, пакутнік знявечаны сяк-так абрасце. Бо родная зямля адчайна лечыць сокамі А я думала, што не толькі вусікі, але і адзін валасок не вылезе. Памылілася, значыць. Заўсёды трэба мець спадзёў. Але ж прыйдзе красавік-травень дзесятага году - зноў абразанне.

Сёлета быў даведзены план падсвільцам: зрэзаць 50 дрэў. А іх усяго па вуліцы не было столькі. 35 зрэзалі, 15 трэба было шукаць. Лічбу назваў сам прадстаўнік аховы прыроды, калі грамадзяне, у тым ліку і я, заступіліся за птушак, гнёзды якіх з птушанятамі ляцелі на дол.

Дзе ўзяць дрэў для выканання плану зрэзкі — вось пытанне! Зрэзчыку праца трэба, каб не звольнілі... Ды і каму пашкодзіць мець будаўнічы матэрыял? Сосны стрункія, прыгодныя... Чырыкнулі пад гэту марку некалькі дрэў гістарычных разам з гнездамі!. Насупраць будынка г. п. Савета.

Так што навука па зразанню ёсць. Гэта ж такі прыклад!

Чаму тады мы павінны дзівіцца, што ў ноч з 22 на 23 снежня, зрэзалі ўстаноўленую навагоднюю пасялковую ёлку ля універмага? Настаўніца кажа: «Добра, што зрэзалі! Непрыгожая ёлка, рагатая...» А доктар згадвае: «Іду вечарам з працы - стаіць такая прыгажуня, небывалая ў Падсвіллі — шырокая, калматая... Іду раніцай на працу – ляжыць. Верхавінка крывая. А як стаяла, крывізна ніколечкі не прыкметна. Не, ёлка ўсё ж была прыгожай». Бач, як на чый густ.

Мяне з маімі чалавечымі пачуццямі ўразіў факт разбоы. Адразу стала шкада дрэва. Яшчэ не дайшло, што елка ж нежывая, адзін раз ужо зразаная, у лесе. Як скумекала – засмяялася. Дачка абуральна кажа: «Нясмешна! Цяпер другую ёлку ў лесе знішчаць».

Вось такі ў нас характар. Шкада лесу. Ён жа вырazаны нямала.

З пераднавагоднй падсвільскай яловай падзеі вынікае як бы смех. Тыя, хто абыходзіцца толькі святочным сімвалам, забяспячаліся лапкамі. На кірмашы стаяць машыны з прыгожымі ёлачкамі. Сёйтой выбірае. Астатнія валакуць ашмоцце загубленай. Хоць нейкая карысць. Усе смяюцца.

Недзе ж смяецца і той, хто нахуліганіў. Гэта я так думаю. Але ёсць розныя варыянты думак.

1. Нахуліганілі.
2. Зрэзалі помсліва, з намёкам ЖКГ, маўляў, хай натопяць кацельню, каб падняць тэмпературу абагрэву, бо ў мароз у далейшых ад кацельні дамах па 12-13 градусаў вышэй нуля.
3. Зрэзалі самі жэкаўцы ў адсутнасць начальніка, які ў адпачынку — каб тапіць кацельню. Бо мерзлякі пазванілі ўжо ў Віцебск...

Ёсць і яшчэ варыянты... Але...

Дзе дзеўся Дзед Мароз суровы?
Які насупліваў тут бровы?
Схімічыў Дзед - падліў вады?
І знік, няведама куды?
А можа гэта Ён ялінку - Чырык?! У ноч, насупраць рынку,
Каб ранкам хуценька прадаць?..

Ды не паспеў - пайшла вада?.. Усё ж я схіляюся да першага варыянту. І, калі б гэты варыянт раскрыўся, то рэзчыкам далі б (казаў Петракоўскі) 5 мільёнаў штрафу.

# Лепшаму рыбаку ва ўзнагароду – бясплатную рыбалку!

**30 студзеня ў Браслаўскім раёне пройдуць спаборніцтвы па спартыўным рыбалоўстве.**

Рыбаловы збяруцца на возеры Дрывяты. Дарэчы, заяўкі ўжо падалі не толькі беларускія аматары падлёднай лоўлі, але і рыбакі з суседніх дзяржаў – Латвіі, Літвы і Расіі. Спаборнічаць яны будуць у некалькіх намінацыях. Галоўны прыз атрымае той, хто пераможа ў намінацыі «Шчупаковы поспех». Яму дастанецца права бясплатна лавіць рыбу на Браслаўскіх азёрах увесь 2010 год.

Таксама призамі будуць заахвочаны самыя юныя рыбакі і самыя ўдачлівыя… рыбачкі. Заснаваць адмысловы прыз для самай удачлівай дамы з вудай прымусіла жыццё – апошні час рыбалка ўсё часцей становіцца не толькі мужчынскім, але і жаночым захапленнем.

Дарэчы, запісацца на ўдзел у турніры можна да 29 студзеня па тэлефонах тэл. 8(029) 593-26-74 і 8(02153) 29466

# «Людзям года» Віцебшчыны будуць уручаць нагрудныя знакі

■ **Марына Паўлава**

**Кожны чалавек года атрымае па «Пагоні».**

Нагрудны знак “Чалавек года Віцебшчыны” упершыню будзе ўручаны 23 студзеня ста жыхарам Віцебскай вобласці, якім па выніках года прысвоена ганаровае званне. На нагрудным знаку намаляваны герб Віцебскай вобласці, паведамляе БелТА. Нагадаем, за аснову герба Віцебшчыны прынят герб Віцебскай губерні 1856 года, гэта значыць малюнак «Пагоні» – ваяра, які трымае ў руцэ меч і скача на кані.

# Нарыхтоўка дроў часам становіцца вялізнай праблемай

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

**Зіма, час прыдатны не толькі для палявання і рыбалкі, але і нарыхтоўкі дроў для асабістых патрэб.**

Аднак, нарыхтоўка дроў часам становіцца вялізнай праблемай. Нягледзячы на тое, што большасць сельскіх Саветаў раёна сумесна з ДЛГУ «Глыбоцкі даследны лягсас» і пачалі выдзяляць месцы для нарыхтоўкі дроў на землях сельскагаспадарчага прызначэння, гэта праблема застаецца вострай. Зважаючы на пастаянную нястачу паліва насельніцтва імкнецца нарыхтаваць дровы ў запас, ствараючы тым самым ажыятаж.

У сувязі з масавай нарыхтоўкай драўніны грамадзянамі трэба нагадаць аб неабходнасці прытрымлівання вызначаных заканадаўчых норм пры нарыхтоўцы і вывазцы драўніны.

Так, пры нарыхтоўцы драўніны па ордэрах на дробны водпуск вываз нарыхтаванай драўніны дазваляецца толькі пасля агляду месца рубкі службовай асобай лясніцтва, са складаннем акту агляду, які даецца на рукі асобе, якая ажыццяўляла нарыхтоўку драўніны. Нарыхтоўцы падлягаюць толькі дрэвы, вызначаныя да рубкі і паказаныя ў ордэры, парода, дыяметр ствала. За рубку дрэў не вызначаных да рубкі, прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць па арт. 15.22 КоАП Рэспублікі Беларусь у выглядзе штрафу ад 10 да 50 базавых велічынь з пакрыццём шкоды за пазапраўную парубку.

Вываз драўніны па квітанцыі – накладной дазваляецца толькі пасля адзнакі аб водпуску драўніны работнікам лясгаса. Колькасць драўніны, якая вывозіцца, яе асартымент, павінен супадаць з асартыментам і колькасцю, паказаным у квітанцыі – накладной.

У выпадку вывазу драўніны без акту агляду, адзнакі работнікаў лясгаса аб водпуску драўніны вінаватыя прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці па арт. 15.21 КоАП Рэспублікі Беларусь у выглядзе штрафу ў памеры ад 5 да 30 базавых велічынь.

Таму варта задумацца, ці парушаць закон. Вельмі сумна, што асобныя грамадзяне пад выглядам нарыхтоўкі дроў купляюць ордэры на дробны водпуск драўніны на кораню за чыста сімвалічную плату, а затым нарыхтаваныя дровы перапрадаюць так званым камерсантам, якія затым прадаюць дровы ў тры дарога, а прададзеныя дровы маглі б спатрэбіцца камусьці з пенсіянераў.

За 2009 год супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі ў парушальнікаў канфіскавана 82 м.куб. пазапраўна нарыхтаванай драўніны.

Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства і пытаннях, якія ўзнікаюць просьба звяртацца ў Глыбоцкую міжрайінспекцыю па тэлефонах: «гарачая лінія»: 2-86-70, моб. 897-23-02, 890-55-28, 511-39-94



Фота Ул. Скрабатуна

# Сіноптыкі патлумачылі, чаму гэтай зімой так халодна

**Наймацнейшыя анамальныя снегапады ў Еўропе, Беларусі і Расеі, нязвыклыя для нас і даволі моцныя маразы — усё гэтае наступства глабальнай змены клімату на планеце.**

Менавіта змены клімату, а не глабальнага пацяплення. Такі пункт гледжання ў інтэрв'ю расейскаму РІА «Новости» выказаў кіраўнік кліматычнай праграмы WWF Расеі Аляксей Какорын.

Як адзначыў спецыяліст, «казаць пра глабальнае пацяпленне з навуковага пункту гледжання крыху няслушна - значна больш правільна казаць пра глабальную змену клімату».

Па словах Какорына, самі змены - гэта канцэнтрацыя вуглекіслаты ў атмасферы і ўжо даказана, што гэта - антрапагеннае ўздзеянне.

Змена і няўстойлівасць клімату - гэта вынік гэтых працэсаў, перадае «Салідарнасць».

«Калі мы запампоўваем у сістэму крыху больш энергіі, дакладней, не даем ёй сысці, дык з-за парніковага эфекту, які ўзмацніўся, усе ўнутраныя кліматычныя працэсы ў сістэме становяцца мацней. Гэта вагальныя працэсы, таму і наймацнейшыя снегапады, і анамальныя з'явы, якія, як чакаюць, будуць паявіліцца, - гэта ўсе звёны аднаго і таго ж ланцуга», - сказаў суразмоўца агенцтва.

«Трэба разумець, што гэта змена клімату, яго разбалансіроўка, а не глабальнае пацяпленне, пра якое так любяць казаць», - падкрэсліў Какорын.

# У возеры Мядзел злавілі 8-кілаграмовага шчупака

Пашчасціла рыбакам Івану Кавяку і Уладзіміру Гірыну. На возеры Мядзел яны выцягнулі шчупака-гіганта вагой 8 кілаграмаў.

На жаль, гэта не рэкорд. Адмыслоўцы кажуць, што шчупакі патрапляюцца і куды большае вагі (аж да 30 кілаграмаў), але найбольш распаўсюджаныя ў нашых краях памеры гэтай рыбы знаходзяцца ў прамежку ад 1 да 8 кілаграмаў. У любым разе Івана і Уладзіміра чакае ладная юшка.

# Ананімшчыкі будуць устаноўленыя і прыцягнутыя да адказнасці за паклёп

■ **А.А. Федзічкін,**
*намеснік начальніка Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету*

За 2009 год супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі выяўлена 367 правапарушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, 11 матэрыялаў накіраваныя ў органы ўнутраных спраў для ўзбуджэння крымінальных спраў за грубыя парушэнні, з іх па 9 матэрыялах узбуджаныя крымінальныя справы і вінаватыя панеслі суровае пакаранне, да крымінальнай адказнасці прыцягнуты 21 чалавек.

Усяго спынена 198 парушэнняў правілаў рыбалоўства, 29 фактаў крадзяжу сажалкавай рыбы, 32 парушэнні правіл вядзення паляўнічай гаспадаркі, 90 парушэнняў правілаў лесакарыстання, 18 іншых парушэнняў. У парушальнікаў канфіскавана 132 браканьерскія сеткі, агульнай даўжынёю 6 км.320 метраў, 40 іншых прылад рыбалоўства, 225 кг. пазапраўна здабытага мяса дзікіх жывёлін, 265 кг. пазапраўна здабытай рыбы, 85 кг. выкрадзенай сажалкавай рыбы, 15 адзінак агнястрэльнай зброі, з іх 7 адзінак незарэгістраванай зброі, 82 м.куб. пазапраўна нарыхтаванай драўніны.

**Ад грамадзян паступіла 57 паведамленняў аб парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства, па якіх затрымана 109 правапарушальнікаў.**

На тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі ад грамадзян паступіла 57 паведамленняў аб парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства, па якіх затрымана 109 правапарушальнікаў.

Так, 23 траўня 2009 года па паведамленні грамадзян супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на вадасховішчы «Азерцы» затрыманы жыхар г. Полацка Андрончык Анатоль Пятровіч, які здзяйсняў лоўлю рыбы пры дапамозе лесачных сетак. Шкода нанесеная прыродным рэсурсам склала 1775000 рублёў. Матэрыялы былі накіраваныя ў Глыбоцкі РАУС для дачы прававой адзнакі, па выніках расследавання ўзбуджаная крымінальная справа, і грамадзянін Андрончык асуджаны судом Глыбоцкага раёна да штрафу на суму 60 базавых велічынь і пакрыццю прычыненай шкоды, усяго больш 110 б.в.

26 траўня 2009 года ў інспекцыю паступіла паведамленне аб тым, што на возеры Іванаўшчына Глыбоцкага раёна ўсталяваныя браканьерскія сеткі. Супрацоўнікі міжрайінспекцыі сумесна з работнікамі Глыбоцкага РАУС арганізавалі засаду і затрымалі двух жыхароў Докшыцкага раёна, Клімко Алега Пятровіча, Піскуновіча Сяргея Фёдаравіча. У затрыманых былі канфіскаваныя сеткі і 161 асобіна розных відаў рыбы. Матэрыялы накіраваныя ў Глыбоцкі РАУС, узбуджаная крымінальная справа і па выніках расследавання вінаватыя прыцягнутыя да крымінальнай адказнасці ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 1 год і 6 месяцаў умоўна.

Гэта далёка не ўсе прыклады супрацоўніцтва работнікаў міжрайінспекцыі з грамадскасцю. Штотыдзень работнікамі інспекцыі з дапамогай добраахвотных памочнікаў затрымоўваюцца рознага роду браканьеры, за што вялікі ім дзякуй.

Прыводзячы прыклады супрацоўніцтва з грамадзянамі, нельга абыйсці стараной і выпадкі, калі асобныя парушальнікі прыродаахоўнага заканадаўства спрабуюць ачарніць інспектараў, пішуць ананімныя лісты ў розныя дзяржаўныя органы, выкладаючы сваё дапушчанае злоснае парушэнне ў выгодным для сябе святле. Трэба сказаць, што ўсе факты праваяраюцца, а ананімшчыкі будуць усталяваныя і прыцягнутыя да адказнасці за паклёп.

Кіраўніцтва Глыбоцкай міжрайінспекцыі просіць усіх грамадзян, жадаючых даведацца бліжэй аб працы інспекцыі, звяртацца па тэлефонах : 2-86-70 або 2-80-30 асабіста да начальніка інспекцыі, а гэтак жа ў любы зручны для Вас дзень з 8-00 да 9-00.

Яшчэ раз хачу падзякаваць работнікаў арганізацый, якія ўзаемадзейнічаюць з інспекцыяй, грамадзян, што аказваюць дапамогу ў барацьбе з браканьерамі. Толькі разам мы зможам навесці парадак у лясах і на азёрах .

Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 8-02156-2-86-70 «гарачая лінія» кругласутачна, Мабільныя: 897-23-02, 890-55-28, 711-35-41, 511-39-94.




**Вольгу Саулiч**

**Віншуем з Днём нараджэння!**

От чистого сердца, простыми словами.
Позволь с Днём рожденья поздравить тебя.
За то, что ты есть, за то, что со мною,
Обнять тебя крепче, любя.
За доброе сердце, за ласки и нежность,
Что ты мне всегда отдаешь,
За то, что заботу и радость
Со мною по жизни несёшь!!!



*Ад Аляксандра Палідаўца*

# Вясна ў Беларусь прыйдзе ў другой дэкадзе лютага

**Такі прагноз агучыў у аўторак на прэс-канферэнцыі начальнік службы гідраметэа ралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра Дзмітрый Рабаў.**

«Паводле папярэдніх прагнозаў, ужо ў другой дэкадзе лютага ў паўднёвых раёнах краіны — у Брэсцкай і Гомельскай абласцях — пачнуцца веснавыя працэсы. Там у гэты час пойдуць ападкі ў выглядзе дажджу і будуць складвацца спрыяльныя ўмовы для апрацоўкі глебы», — адзначыў Дзмітрый Рабаў.

У паўночныя раёны Беларусі вясна прыйдзе бліжэй да сярэдзіны сакавіка, — дадаў ён.

*Алена Дземяшкевіч, БЕЛТА*

